*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас

**№ 3(585)**
Аўторак, 12 студзеня 1999 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт: у кіёсках і крамах — 5000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля



# Дэпутаты Вярхоўнага Савета 13-га склікання прызначылі правядзенне прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі на 16 мая 1999 года

Чарговыя прэзідэнцкія выбары ў Беларусі павінны адбыцца 16 мая 1999 года. Кіруючыся артыкуламі 83 і 97 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, а таксама артыкуламі 8 і 10 Закона аб выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, такое рашэнне аднагалосна прынялі 44 дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання на прайшоўшым 10 студзеня пасяджэнні ў Мінску.

Апрача гэтага, удзельнікі пасяджэння пастанавілі ўтварыць Цэнтральную камісію па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у складзе 19 чалавек на чале з Віктарам Ганчаром. У склад Цэнтрвыбаркама ўвайшлі такія вядомыя ў Беларусі асобы, як Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Георгій Таразевіч, дэпутат Мінскага гарсавета Алег Волчак, дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання Барыс Гюнтэр і іншыя. Прэзідыуму Вярхоўнага Савета сумесна з Цэнтрвыбаркамам даручана ўнесці на разгляд Вярхоўнага Савета пералік арганізацыйных мерапрыемстваў па падрыхтоўцы і правядзенні выбараў кіраўніка беларускай дзяржавы.

Дадзеная пастанова ўступае ў сілу з моманту яе прыняцця і будзе накіраваная ўсім дэпутатам Вярхоўнага Савета 13-га склікання, каб тыя, хто па ўважлівых прычынах не змог узяць удзел у пасяджэнні 10 студзеня, змаглі б да яе далучыцца.

Старшыня ВС Сямён Шарэцкі ў сваім выступленні на пасяджэнні асабліва падкрэсліў, што ў 1994 годзе народ галасаваў за Аляксандра Лукашэнку як за прэзідэнта Беларусі тэрмінам на пяць гадоў і ніякія рэферэндумы замяніць прамыя выбары не могуць. З гэтай нагоды спікер адзначыў са станоўчага боку прэзідэнта Казахстана Нурсултана Назарбаева, які мог бы, як і беларускі лідэр, прадоўжыць тэрмін уласных паўнамоцтваў шляхам рэферэндуму, але свядома пайшоў на праверку сваёй легітымнасці праз прэзідэнцкія выбары.

Старшыня Цэнтрвыбаркама Віктар Ганчар адмовіўся каменціраваць нядаўнюю заяву прэс-службы Пракуратуры Рэспублікі Беларусь, у якой утрымліваліся пагрозы ў адрас ініцыятараў правядзення прэзідэнцкіх выбараў. Ганчар падкрэсліў, што "заява прэс-службы рэспубліканскай пракуратуры не грунтуецца на беларускім заканадаўстве".

Старшыня ЦВК паведаміў, што на першым пасяджэнні яго камісіі будзе прынята рашэнне аб стварэнні спецыяльнага фонду, у які грамадзяне і арганізацыі змогуць пералічваць сродкі на правядзенне выбараў. Па словах В.Ганчара, будзе складзены адпаведны каштарыс расходаў, значна меншы, чым калі б сродкі на гэта выдзяляліся з дзяржбюджэту. Ён падкрэсліў, што ЦВК абавязкова даможацца міжнародных гарантый бяспекі для яе членаў. Рэгістрацыя кандыдатаў у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь пачнецца 1 сакавіка гэтага года, паведаміў кіраўнік Цэнтрвыбаркама.

**Уладзімір ГЛОД, БелаПАН.**



Група дэпутатаў Вярхоўнага Савета 13-га склікання накіроўваецца ў актавую залу гасцініцы "Турыст" для пасяджэння па пытаннях, звязаных з прызначэннем даты выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у 1999 годзе.

### Ад рэдакцыі "Народнай волі"

*Гэты нумар газеты мы рыхтавалі ў нядзелю вечарам. Інфармацыя, якая паступіла па каналах інфармацыйнага агенцтва БелаПАН, не можа не зацікавіць чытачоў. Паколькі "Народная воля" друкуецца не ў спецыялізаванай друкарні выдавецтва "Беларускі Дом друку" (улады папранейшаму не дазваляюць), а на базе прыватнага прадпрыемства "Мэджык", і мы вымушаны загадзя здаваць нумар, то аб рэакцыі прэзідэнта, урада, грамадскіх і палітычных арганізацый, выбаршчыкаў на рашэнне дэпутатаў Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання "Народная воля" раскажа ў чарговым выпуску.*

## Снежань стаў самым выніковым месяцам за пяць гадоў ажыццяўлення праекта "Малая прыватызацыя ў Беларусі"

Па ацэнцы кіраўніка праекта Міжнароднай фінансавай карпарацыі "Малая прыватызацыя ў Беларусі" Джэфа Феры, снежань 1998 года стаў самым выніковым месяцам у больш чым 5-гадовай гісторыі праекта ў рэспубліцы. Адбылася рэкордная колькасць аўкцыёнаў (29), на якіх былі прададзены 84 аб'екты камунальнай уласнасці. Па выніках аўкцыёнаў у мясцовыя бюджэты пералічана ў агульнай колькасці больш за 133,46 мільярда рублёў, што эквівалентна 1,387 мільёна долараў ЗША.

Да канца года эксперты МФК зафіксавалі значны рост колькасці продажаў на так званых "галандскіх" аўкцыёнах. З прымяненнем гэтага метаду органам прыватызацыі Мінска, Брэста, Магілёва, Гомеля, Віцебска, Гродна, Віцебскай, Гродзенскай і Брэсцкай абласцей, Ліды, Ваўкавыска, Бярозы і Барысава ўдалося знайсці новых гаспадароў для 49 нявыкарыстаных альбо неэфектыўна выкарыстоўваемых аб'ектаў. Такім чынам, на думку Дж.Феры, дасягаецца асноўная мэта праекта — дапамагчы умацавацца прыватнаму сектару беларускай эканомікі. Моцны прыватны бізнес атрымае доступ да крэдытаў і інвестыцый, што дасць неабходны штуршок для развіцця эканомікі. Пры гэтым малая прыватызацыя садзейнічае павышэнню сацыяльнай стабільнасці ў краіне. На прадпрыемствах, прыватызаваных у рамках праекта, створана каля 1200 новых працоўных месцаў.

У гэтым годзе рэалізацыя праекта МФК "Малая прыватызацыя ў Беларусі" будзе працягнута. Разам з тым Дж. Феры прагназуе некаторае зніжэнне тэмпаў прыватызацыі камунальнай уласнасці напачатку гэтага года з-за штогадовай пераацэнкі асноўных фондаў. Па яго словах, вопыт мінулых гадоў паказаў, што пераацэнка вядзе да павышэння цэн продажу і робіць аб'екты менш прыцягальнымі. Пераацэнка "забівае" спадзяванні арэндных прадпрыемстваў выкупіць арандаваную дзяржмаёмасць.

Іншыя аб'екты можна паспрабаваць прадаваць па цэнах, якія не залежаць ад іх ацэначнага кошту. Зрабіць гэта дапаможа продаж прадпрыемстваўдаўжнікоў за адну мінімальную заработную плату, а таксама па метадзе паніжэння стартавай цаны (галандскі аўкцыён), што было паспяхова апрабіравана летась.

**Ірына САЗАНОВІЧ, БелаПАН.**

**Слышали?**

## Новогоднюю елку у Александра Лукашенко послы, выходит, проигнорировали

На 13 января Александр Лукашенко назначил новогодний прием в своей резиденции. Эта дата выбрана не случайно — можно отпраздновать и Новый год, и Рождество Христово и по новому стилю, и по старому — как кому нравится. Но в нынешнем году президент, определяясь с датой праздника, держал, скорее всего, в уме и другое — он, видимо, очень надеялся, что 13 января среди его гостей будут и послы ряда государств, которые покинули Беларусь после известного скандала вокруг Дроздов.

Президенту наверняка хотелось в этот день похристосоваться и объявить всему миру, что "канализационный скандал" исчерпан и что высокопоставленные дипломаты простили его за неудачные прегрешения. Увы, президента ждет большое разочарование. Как стало известно, главы дипломатических миссий, аккредитованные в Беларуси, решили вернуться в Минск уже после праздника. Предположительно это произойдет только 17 января.

А Александр Григорьевич так старался! Кстати, по словам одного из мастеров, которые были заняты в эти дни на ремонте президентской резиденции, за 40 с лишним лет своей работы он никогда не видел такого шикарного паркета, который сейчас укладывают в здании, где размещаются Александр Лукашенко и его администрация. Хотя и старый пол мог еще служить да служить. Но, похоже, нынешним властям просто некуда девать деньги.

Кстати, еще более бурными темпами идет сейчас строительство и на другом объекте — в Дроздах. Одни уверяют, что здесь возводятся 10, а другие — аж 30 двухэтажных особняков. Причем расходы на их возведение сумасшедшие. Как сказал один из строителей, только расходы на освещение одного особняка приближаются к двумстам тысячам долларов. Вот уж воистину — пир во время чумы.

Что же касается возвращения послов ряда стран в Беларусь, то, по словам исполняющего обязанности председателя Комиссии по международным делам Верховного Совета Беларуси 13-го созыва Анатолия Лебедько, их приезд в Минск — это вовсе не компромисс и не желание сотрудничать с президентом Беларуси. Послы возвращаются в Минск для того, чтобы быть свидетелями важнейшей акции — проведения выборов президента Республики Беларусь в мае 1999 года.

**Владимир ГЛОД.**

**Крик души**

## Помогите! Я еще хочу жить...

Я — инвалид III группы. Пишу в газету потому, что известно: человек всегда тянется к тому, от кого надеется получить совет, поддержку в трудную минуту. Вот у меня настала такая минута.

Мне 40 лет, из них последние пять я — инвалид. Вот уж правду говорят — судьба. Мне было 11 лет, когда умер отец. В моих шестнадцать не стало матери. Со временем, как говорится, раны зарубцевались. В 1991 году я сломал ногу. Перелом был в лодыжке, и без операции дело не обошлось. После выздоровления дважды приходилось ложиться на операции, чтобы извлечь крепежные материалы. (К сожалению, и сейчас еще остался кусок спицы около 8 см в ноге. И узнал я об этом недавно.)

В 1994 году предприятие, на котором я работал, полностью ликвидировали. Все, в том числе и я, оказались без работы. Буквально сразу после сообщения о ликвидации предприятия со мной произошел несчастный случай, и мне ампутировали ногу. В итоге получилось, что одной ноги вообще нет, а вторая все время пухнет, даже от малых нагрузок. Мне практически сразу дали II группу инвалидности. По истечении двух лет на перекомиссовке назначили III рабочую группу. Я не согласился с решением, так как зимой вообще не могу никуда выйти, и меня направили на повторное освидетельствование в Гомель. Там группу подтвердили, и меня отправили в институт реабилитации инвалидов в Минске. В институте провели доскональное амбулаторное обследование и заверили, что можно спокойно ехать домой, мол, все будет хорошо. Через месяц "обрадовали", что подтверждена III рабочая группа. И что мне теперь делать? В городе и здоровым людям приходится сейчас очень туго, а что обо мне говорить... А тут в придачу телевизор отслужил верно и заглох — ни новостей посмотреть, ничего...

Уважаемые читатели! Подскажите, помогите...

**Анатолий БРОНОВИЦКИЙ, житель г. Светлогорска.**



Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання Сямён Шарэцкі падчас пасяджэння групы дэпутатаў Вярхоўнага Савета ў гасцініцы "Турыст" па пытаннях, звязаных з прызначэннем даты новых прэзідэнцкіх выбараў у 1999 годзе.



Удзельнікі пасяджэння групы дэпутатаў Вярхоўнага Савета ў гасцініцы "Турыст" у Мінску 10 студзеня 1999 года галасуюць падчас абмеркавання пытанняў, звязаных з прызначэннем даты новых прэзідэнцкіх выбараў у Рэспубліцы Беларусь у 1999 годзе.

**Фота IREX/ProMedia.**

**Кто есть кто**

## Как депутат Яковчик отделял мух от сметаны

В конце 1998 года так называемая Палата представителей Национального собрания Беларуси пополнилась двумя новыми членами — Владимиром Волковым и Николаем Яковчиком. Они заняли вакантные места, освободившиеся после убийства Евгения Миколуцкого и смерти Николая Шиманского.

По словам председателя Комиссии по государственному строительству, местному самоуправлению и регламенту Анатолия Красуцкого, на два мандата претендовало несколько десятков депутатов. Но Совет Палаты представителей, отбирая лучших, исходил, прежде всего, из профессиональных и политических качеств предендентов, а также из необходимости более полного представительства в нижней палате Национального собрания депутатов от Брестской области и Минска — наименее представленных регионов.

Возможно, Анатолий Красуцкий в данной ситуации говорил чистую правду. Но, думается, не только перечисленные обстоятельства сыграли свою роль. Есть и другие, о которых председатель постоянной комиссии умолчал, но которые, я считаю, необходимо назвать.

К примеру, Владимир Волков, директор Минского завода колесных тягачей, после своего избрания в Верховный Совет примкнул к депутатской фракции "Гражданское действие". Он буквально не выходил из кабинета заместителя председателя Верховного Совета Геннадия Карпенко, активно участвовал в разработке рыночных законов. И его поведение было объяснимо — директор крупного предприятия прекрасно понимал, что без рыночных реформ экономика Беларуси рано или поздно "лопнет". Однако после так называемого ноябрьского референдума 1996 года директор-депутат резко изменил свое поведение. Почему? Знающие люди утверждают, что Владимир Волков руководствовался прежде всего интересами завода, опасался, что если пойдет против "батьки", то возникнут проблемы с акционированием предприятия, ухудшатся взаимодействия с российскими заказчиками и т.п. Поговаривают, что в противном случае тут же были бы направлены многочисленные комиссии, перед которыми стояла бы одна задача — накопать побольше компромата на В.Волкова. Словом, человеку сразу дали понять — или с нами, или...

Не очень хотелось обострения с властью и директору совхоза "Закозельский" Дрогичинского района Николаю Яковчику. Это тот самый Яковчик, который с момента создания Верховного Совета 13-го созыва активно работал в аграрной фракции. Пожалуй, в ту пору у Семена Шарецкого не было наиболее преданного товарища и защитника, чем Николай Яковчик. Хорошо помню: когда Владимир Нистюк публично покритиковал Семена Шарецкого за недостаточно активные действия на посту главы парламента, то первым в защиту Семена Георгиевича бросился директор совхоза "Закозельский".

Именно Николай Яковчик в моменты наибольшего противостояния законодательной и исполнительной ветвей власти решительно требовал "отделить мух от сметаны". Директор совхоза под "мухами" имел в виду президента, главу его Управления делами и других близких А.Лукашенко чиновников, а под "сметаной" — Беларусь.

Однако после ноября 1996 года обстоятельства изменились. И "борец с мухами" поспешил занять абсолютно противоположную позицию.

Ни о Волкове, ни о Яковчике, пожалуй, можно было бы и не вспоминать. Но написать эти строки мне показалось обязательным после того, как во время обсуждения кандидатур на место Миколуцкого и Шиманского один из подлинно верных режиму депутатов Палаты представителей поставил вопрос так: разве главное географический или какой-то другой принцип? Самое важное — как вели себя те или иные депутаты в ноябре 1996 года. Казалось бы, абсолютно верный подход. Однако он не был поддержан другими членами Палаты представителей. Почему? Мне думается потому, что такие люди, как Яковчик, едва запахнет жареным, переметнутся в противоположный лагерь. А потому им так не хочется вспоминать, кто и что делал в ноябре 1996 года.

**Владимир КОРЗУН.**

## Праграма дзейнасці БНФ на 1999 год абмеркаваная на сойме фронту, які прайшоў 10 студзеня ў Мінску

Праграма дзейнасці Беларускага народнага фронту на 1999 год абмеркаваная падчас прайшоўшага 10 студзеня ў Мінску сойма БНФ. Па гэтым пытанні было зачытана пасланне старшыні Народнага фронту Зянона Пазьняка і заслуханы даклад выконваючага абавязкі старшыні БНФ Лявона Баршчэўскага.

Асноўнымі задачамі Фронту З.Пазьняк назваў недапушчэнне анексіі Беларусі Расіяй і ліквідацыю рэжыму Лукашэнкі законным шляхам. Галоўнай задачай Народнага фронту на будучы перыяд з'яўляецца стварэнне супольнасці грамадзян БНР і фаміраванне на яго аснове паралельных структураў улады. Пазьняк заклікаў рыхтавацца да агульнарэспубліканскай забастоўкі, іншых акцый пратэсту, актыўна працягваць збор подпісаў за адстаўку прэзідэнта, умацоўваць сувязі з рабочым рухам. Лідэр Фронту скептычна выказаўся адносна выніковасці і эфектыўнасці плануемага Кангрэса дэмакратычных сіл краіны. Ён заклікаў не выбіраць дэлегатаў на Кангрэс, а накіраваць ад БНФ дэлегацыю прадстаўнікоў, якія прапанавалі б у якасці асноўнага дакумента форума перспектыўны план супрацоўніцтва ўсіх антыталітарных сіл Беларусі.

Па словах Л.Баршчэўскага, перспектыўны план складаецца з некалькіх накірункаў: забеспячэнне незалежнасці Беларусі, уключаючы стварэнне супольнасці грамадзян БНР; абарона Беларусі ад расійскай анексіі; вяртанне Беларусі ў Еўропу з яе культурай і высокім узроўнем жыцця; стварэнне скаардынаванага антыталітарнага руху ў Беларусі на платформе БНР.

**Генадзь БАРБАРЫЧ, БелаПАН.**

## Сёння ў музеі Якуба Коласа пройдзе вечарына памяці вядомага дзеяча нацыянальнай культуры Якуба Якубоўскага

Сёння ў сталічным літаратурна-мемарыяльным Доме-музеі Якуба Коласа пройдзе вечарына памяці вядомага дзеяча нацыянальнай культуры Якуба Якубоўскага, арганізаваная беларускім аб'яднаннем татар-мусульман "Аль-Кітаб".

Як паведаміў БелаПАН прэзідэнт аб'яднання Абу-Бекір Шабановіч, да ўдзелу ў вечарыне запрошаны выдатныя дзеячы беларускай навукі і культуры, члены нацыянальна-культурнага аб'яднання "Аль-Кітаб". На вечарыне пройдзе прэзентацыя чарговага нумара штоквартальнага часопіса "Байрам", прысвечанага жыццю і дзейнасці Я.Якубоўскага. Якуб Якубоўскі нарадзіўся 20 красавіка 1932 у вёсцы Камаі Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці ў сям'і рамесніка. Пасля заканчэння Відзеўскай сярэдняй школы Браслаўскага раёна вучыўся ў Мінскім педагагічным інстытуце і Беларускім дзяржаўным універсітэце па спецыяльнасцях гісторыя, геаграфія, беларуская мова і літаратура. Працаваў настаўнікам пачатковай школы, навуковым супрацоўнікам Інстытута глебазнаўства, загадчыкам рэдакцыі Беларускай энцыклапедыі. За выданне 12-томнай Беларускай савецкай энцыклапедыі ў 1978 годзе быў удастоены Дзяржаўнай прэміі БССР. Памёр Якуб Якубоўскі 14 верасня 1998 года. Пахаваны на татарскім мізары ў пасёлку Смілавічы Чэрвеньскага раёна Мінскай вобласці.

Я.Якубоўскі з'яўляўся ініцыятарам стварэння унікальнай энцыклапедыі "Татары Беларусі, Літвы і Польшчы". На працягу шасці апошніх гадоў жыцця ён склаў каля тысячы артыкулаў будучай энцыклапедыі, прысвечаных разнастайным аспектам жыцця татар-мусульман сярод прадстаўнікоў іншых культур і канфесій. У 1991 годзе Якубоўскі арганізаваў выпуск першага друкаванага выдання беларускіх татар — часопіса "Байрам" і быў галоўным рэдактарам яго першых 27 нумароў.

**Марат ГАРАВЫ.**

## Уласнаму карэспандэнту БелаПАН было адмоўлена ў магчымасці прысутнічаць на пасяджэнні Гомельскага гарвыканкама

Уласнаму карэспандэнту БелаПАН і "Белорусской деловой газеты" па Гомельскай вобласці Ірыне Макавецкай было адмоўлена ў магчымасці прысутнічаць на першым у 1999 годзе пасяджэнні Гомельскага гарвыканкама. Загадчык аддзела інфармацыі Ганна Шыдлоўская прама ў зале, за 5 хвілін да пачатку пасяджэння, заявіла І.Макавецкай, што тая не мае права прысутнічаць на пасяджэнні без акрэдытацыі.

Гэтую заяву можна разглядаць як зачэпку, таму што да карэспандэнтаў рэспубліканскіх СМІ, працуючых у Гомельскай вобласці, ніякага патрабавання аб атрыманні акрэдытацыі гарвыканкам не прад'яўляў. Напярэдадні журналістка паведаміла ў аддзел інфармацыі аб сваім намеры прысутнічаць на пасяджэнні, аднак ёй адказалі, што яно будзе закрытым.

Тым не менш да пачатку мерапрыемства прыбылі карэспандэнты гарадскіх і абласных СМІ, а таксама рэспубліканскай газеты "Звязда", і яны былі дапушчаны на пасяджэнне без усялякіх перашкод.

**Ірына ШАНЦАВА.**

## Прабачце...

Гэта ж трэба: у першым нумары новага года мы напісалі, што балюча перажываем за кожную дапушчаную недакладнасць, як тут жа, на першай старонцы, прапускаем апіску. Па віне аўтараў "Заявы кіраўніцтва БНФ "Адраджэнне" і недагляду карэктуры ў тэксце замест 1999 года называецца ўжо мінулы, 1998 год. Вядома ж, што прэзідэнцкія выбары ў Беларусі, паводле легітымнай Канстытуцыі, павінны адбыцца ў першай палове 1999 года. З удакладненнем паўтараем і такі абзац заявы: "25 снежня 1998 г. Б.Ельцын і А.Лукашэнка падпісалі ў Маскве шэраг дакументаў, дзе засведчана імкненне стварыць у другой палове 1999 года нейкую "саюзную дзяржаву" ў складзе Расіі і Беларусі".

На жаль, у нумары за 6 студзеня ў інтэрв'ю Барыса Нямцова з-за тэхнічнага збою дапушчаны літарныя скажэнні. Прабачце нам, шаноўныя чытачы, пастараемся больш уважліва рыхтаваць кожны газетны радок.

**Рэдакцыя газеты "Народная воля".**

**З першых вуснаў**

## Новы парадак продажу драўніны за мяжу

Згодна з пастановай Савета Міністраў, уведзены новы парадак продажу за мяжу лесапіловачніку хвойнага і піламатэрыялаў. Цяпер усе экспартныя аперацыі з лесам будуць ажыццяўляць чатыры спецэкспарцёры — па адной юрыдычнай асобе ад Міністэрства лясной гаспадаркі, кіраўніцтва спраў прэзідэнта краіны, канцэрнаў "Беллеспаперапрам" і "Белрэсурсы". Аб гэтым паведаміў міністр лясной гаспадаркі Беларусі Валянцін Зорын.

Па словах міністра, да нядаўняга часу экспартам беларускага лесу займаліся каля тысячы фірм і арганізацый, якія прадавалі яго за мяжу часта па стратных цэнах. Для параўнання: у Польшчы адзін кубаметр лесу на карані каштуе 7—8 долараў, у нас — каля 1,6 долара.

**Юрый КУЗНЯЦОЎ.**



## У Барысаве асуджана група афіцэраў 34-й базы захоўвання ўзбраення і тэхнікі

Паводле паведамлення Беларускай ваеннай пракуратуры, у Барысаўскім міжгарнізонным ваенным судзе вынесены прыгавор у дачыненні да чатырох службовых асоб 34-й базы захоўвання ўзбраення і тэхнікі маёра Ю., капітанаў С. і П., старшага лейтэнанта В. Падсудныя, якія з'яўляліся матэрыяльна адказнымі асобамі, асабіста і сумесна па папярэдняй змове выкралі ваенную маёмасць на суму звыш за 1,2 мільярда рублёў, а таксама ўчынілі наўмыснае пашкоджанне ваеннай маёмасці.

Зыходзячы з цяжару учыненых злачынстваў, кожнаму з падсудных суд прызначыў рознае пакаранне: ад 3 гадоў умоўна з абавязковым прыцягненнем да працы і з канфіскацыяй маёмасці да 10 гадоў пазбаўлення волі з адбыццём пакарання ў папраўча-працоўнай калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. Акрамя таго, усе чацвёра пазбаўлены права займаць матэрыяльна адказныя і кіруючыя пасады на тэрмін ад 3 да 4 гадоў.

**Алег САКАЛОЎ, БелаПАН.**

